№ 9 (3954)

3 лютага 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТАРЫФЫ

## Жыроўкі не парадуюць



З 1 лютага выраслі тарыфы на камунальныя паслугі ў Мінску. Адпаведнае рашэнне прыняў Мінгарвыканкам. Прычым на асобныя паслугі тарыфы выраслі вельмі істотна.

Як змяніліся тарыфы:

| Паслуга | да 1.02.2015 (руб.) | пасля 1.02.2015 (руб.) |
|---|---|---|
| Тэхнічнае абслугоўванне жылога дома (за 1 квадратны метр) | 709,6 | 947,1 |
| Водазабеспячэнне (за 1 кубічны метр) | 1117,7 | 1435,8 |
| Паслугі каналізацыі (за 1 кубічны метр) | 768,6 | 958,6 |
| Карыстанне ліфтам (з аднаго жыхара ў месяц) | 2779 | 6579 |
| Капрамонт (за адзін квадратны метр агульнай плошчы) | 600 | 837,5 |

ФОТАФАКТ

## Заўчасная паводка



**Надзвычай цёплае надвор'е стала прычынай падтаплення дамоў, дарог і падворкаў на Магілёўшчыне. Як паведамляе прэс-служба абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, падтапленні зафіксаваны ў самім Магілёве, а таксама ў дзевяці раёнах.**

ЭКАНОМІКА

## Бізнес просіць дэнамінацыю

Дзелавая супольнасць Беларусі прапануе ўраду і Нацбанку ў бліжэйшы час правесці дэнамінацыю. Пра гэта на сустрэчы з журналістамі расказаў старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў **Аляксандр Калінін**.

*«Рубель – не толькі сродак зберажэння даходаў, але ён яшчэ выконвае і функцыі разлікаў. Калі гэта незразумела Нацбанку, то мы хочам гэта данесці. Таму дэнамінацыя неабходная. У краіне павінен быць нармальны банкнотны рад. Найвялікшая банкнота павінна быць эквівалентнай хоць бы ста долларам. А цяпер яна роўная 13 доларам»,* – сказаў Калінін. *«Да таго ж у краіне ўжо ёсць надрукаваныя новыя грошы",* – дадаў ён.

Аляксандр Калінін лічыць, што з беларускіх грошай "можна спакойна прыбраць чатыры нулі".

Нагадаем, што прадстаўнікі Нацыянальнага банка даўно не аспрэчваюць неабходнасць дэнамінацыі, але яны агучвалі думку, што яе мае сэнс праводзіць пры інфляцыі менш за 10%. *"Мы, здаецца, такой інфляцыі не дачакаемся, а будзем цягаць грошы мяшкамі»,* – адзначыў кіраўнік прадпрымальніцкага саюза.

НАДВОР'Е

## На гэтым тыдні вернецца зіма

Надвор'е будзе спакойным і зімовым. Пра гэта паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў.**

*«Студзень быў анамальна цёплым. Сярэдняя тэмпература паветра перавысіла кліматычную норму на 5,6 градуса. Так цёпла ў студзені ў нашай краіне бывае прыкладна адзін раз у 15 гадоў, і такі тэмпературны рэжым звычайна характэрны для сакавіка»,* – сказаў Дзмітрый Рабаў. Але на календары не сакавік, а люты. І на гэтым тыдні мы зноў гэта адчуем.

Першую палову тыдня ўмовы надвор'я будзе вызначаць вобласць паніжанага атмасфернага ціску, сфарміраваная ў вільготнай паветранай масе. У аўторак, 3 лютага, ноччу па поўдні, раніцай і днём у многіх раёнах чакаецца снег, мокры снег. Месцамі прагназуюцца слабыя туман і галалёд. Тэмпература паветра ўначы складзе ад 1 да 7 градусаў ніжэй за нуль, па поўначы пры праясненнях будзе 8–10 градусаў марозу, днём – ад мінус 3 да плюс 3 градусаў.

У сераду месцамі чакаецца кароткачасовы снег. На асобных участках дарог – галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы складзе ад 2 да 7 градусаў марозу, пры праясненнях слупок тэрмометра апусціцца да мінус 10. Днём чакаецца ад 3 градусаў марозу да 2 градусаў цяпла.

У другой палове тыдня надвор'е пачне вызначаць поле высокага ціску, сфарміраванае ў больш халоднай паветранай масе паўночных шырот, якія прынясуць у начныя і ранішнія гадзіны ўзмацненне маразоў. Надвор'е нарэшце стане спакойным і зімовым. У чацвер, 5 лютага, месцамі прагназуецца кароткачасовы снег. Тэмпература паветра ўначы складзе ад 3 да 10 градусаў марозу, пры праясненнях – да мінус 15 градусаў. Днём прагназуецца ад 5 градусаў ніжэй за нуль да 1 градуса цяпла.

У пятніцу будзе пераважна без ападкаў. На асобных участках дарог захаваецца галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы складзе 3–10 градусаў марозу, па паўночнай палове краіны слупок тэрмометра апусціцца да 17 градусаў ніжэй за нуль. Днём чакаецца 1–8 градусаў марозу.

ПЕРСПЕКТЫВА



## Казка ці быль?

*Нацыянальны банк арыентуецца на 18% інфляцыі ў гэтым годзе*

Мэтавы арыенцір па інфляцыі ў 2015 годзе вызначаны на ўзроўні 18% з дапушчальным адхіленнем у памеры 2%. Такія паказчыкі названы асноўнай мэтай грашова-крэдытнай палітыкі Нацыянальнага банка.

Нагадаем, што паводле вынікаў мінулага года гэты паказчык значна перавысіў прагнозны параметр. А вінаватым зрабілі... народ. Падобна на тое, што ў нашай краіне чыноўнікі могуць агучваць любыя, нават самыя фантастычныя лічбы.

ОФИЦИАЛЬНО

## Бюджет выживания

С 1 февраля в Беларуси увеличен бюджет прожиточного минимума. В среднем на душу населения до 30 апреля текущего года в расчете на месяц он теперь составляет 1.428.100 рублей.

Также установлен бюджет прожиточного минимума для основных социально-демографических групп населения: трудоспособного населения – 1.549.790 рублей; пенсионеров – 1.095.070 рублей; студентов – 1.386.490 рублей; детей в возрасте до трех лет – 927.610 рублей; детей в возрасте от трех до шести лет – 1.292.070 рублей; детей в возрасте от шести до восемнадцати лет – 1.586.840 рублей.

Как можно при нынешних ценах прожить на такие деньги, совершенно непонятно. Однако, как пояснили в Минтруда и соцзащиты, «БПМ как социальный норматив предназначен для анализа и прогнозирования уровня жизни населения, оказания государственной социальной помощи малообеспеченным гражданам (семьям); обоснования минимальных государственных социально-трудовых гарантий».

ПАЛІТКУХНЯ

## Перамовы "замарожаны"

Хоць да прэзідэнцкіх выбараў засталося ўжо менш за 10 месяцаў, спрэчкі паміж партыямі і грамадскімі арганізацыямі наконт абрання адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі пакуль не маюць выніку.

Першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» **Юрась Губарэвіч** канстатаваў адсутнасць якога-небудзь прагрэсу ў перамовах.

– Перамовы замарожаны, – сказаў Губарэвіч. – Мы маем некалькі заяў з боку палітыкаў, якія гавораць пра свой асабісты безумоўны ўдзел, што само па сабе перакрэслівае ідэю абрання адзінага кандыдата. Але сітуацыя можа імкліва мяняцца як у краіне, так і ў стане апазіцыі. Магчыма, узнікне патрэба аб'яднацца...

Трэба разумець, на дадзены момант такой патрэбы няма. Амбіцыі зноў возьмуць верх над здаровым сэнсам?

ТЫМ ЧАСАМ

## А вынік будзе?

Шэраг апазіцыйных структур падпісалі пагадненне аб правядзенні супольнай кампаніі назірання падчас прэзідэнцкай кампаніі 2015 года. Гэта – Беларуская сацыял-дэмакратычныя партыя (Грамада), аргкамітэт па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя", кампанія "Гавары праўду!", Партыя БНФ і Рух "За свабоду".

Кіраўнікамі кампаніі "Права выбару" абраны адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Дзяніс Садоўскі і сябра Рады Руху "За свабоду" Алесь Сілкоў.

Цяпер ідзе працэс фарміравання структур кампаніі і тэхнічнага складу, у бліжэйшы час запланаваны аб'езд кіраўнікамі кампаніі рэгіёнаў з мэтай стварэння рэгіянальных аддзелаў ва ўсіх абласцях.

"Права выбару" мае досвед назірання за галасаваннем на мясцовых выбарах 2014 года. Яна адкрытая для ўдзелу іншых партый, арганізацый і ініцыятыў, таму як на нацыянальным, так і на рэгіянальных узроўнях прадстаўніцтва кампаніі будзе больш шырокім.

Кампанія назірання-2015 будзе падаваць інфармацыю штабам усіх дэмакратычных кандыдатаў і не стане падтрымліваць кагосьці з іх канкрэтна.

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

*Павел ДАНЕЙКО:*

## «Нынешний кризис продлится минимум три года»



Нынешний кризис не похож на предыдущие. Он продлится как минимум три года. Страну ждут массовые увольнения, а многие государственные предприятия могут быть закрыты.

Такое мнение в интервью Naviny.by высказал экономист, генеральный директор Бизнес-школы Института предпринимательства и менеджмента Павел Данейко.

**– Как бы вы охарактеризовали то, что сейчас происходит с белорусской экономикой?**

– К тому, что происходит, однозначно подходит слово «кризис», но, наверное, он несколько необычный.

**– А чем он отличается, например, от кризиса 2011 года?**

– В 2011 году в Беларуси был валютный кризис. Впоследствии от этого очень сильно выиграли экспортеры: все те, кто продавал свою продукцию на российском, украинском рынках. Они заработали достаточно значимые дивиденды.

Сейчас в результате кризиса проиграли и импортеры, и экспортеры. По экспортерам нанесен гораздо более жесткий удар за счет более глубокой девальвации в России и Украине. По этой причине мы столкнемся с теми явлениями, которых раньше не было. В частности, с безработицей.

В частном секторе уже начались массовые увольнения. Государственные предприятия их продолжат, потому что если экспортеры в частном секторе больны, им тяжело, то, скорее всего, целый ряд государственных предприятий просто уже погибли, но они этого еще не осознали. Маловероятно возрождение тех рынков, на которых они работают.

Это первая особенность нынешнего кризиса.

Вторая особенность состоит в том, что мы никогда не имели кризиса, который был долго. После предыдущих кризисов в течение полугода наступала стабилизация, и дальше был рост.

Сейчас после стабилизации валютного кризиса мы впервые окажемся в ситуации, когда роста не будет много лет. Это совершенно новое состояние рынка, с которым после 1991 года мы никогда не сталкивались. Всегда следующий день приносил более богатый рынок, чем вчера. Сейчас мы будем жить в мире, в котором завтра наши клиенты будут беднее, чем вчера.

**– Как вы оцениваете действия властей по спасению экономики?**

– Национальный банк у нас достаточно профессиональный. В рамках тех политических, социальных, организационных ограничений, которые есть, по-моему, он проводит достаточно последовательную политику. А агрессивные действия против импортеров происходят в рамках той парадигмы, которая есть в управлении экономикой. Можно обсуждать, верная это парадигма или нет, но когда кризис, то в общем-то не до обсуждений. Возможны и другие подходы.

**– Какие?**

– Для того, чтобы повысить устойчивость нашей экономики, нужно избавиться от бремени государственных расходов на поддержку нерентабельных государственных предприятий. Пока мы этого не сделаем, мы все время будем находиться под угрозой девальвации, а наша способность реагировать на кризисы на тех рынках, где мы в основном работаем, будет достаточно ограничена.

ЧУЛІ?

## З сённяшняга дня ў Беларусі могуць вырасці кошты

Мінэканомікі і Мінгандлю патлумачылі, як будуць фарміравацца кошты ад 3 лютага.

Паводле новых правілаў, дапускаецца павышэнне коштаў або тарыфаў вытворцамі. Але яны павінны вырасці толькі на велічыню змены кошту імпартнай сыравіны і матэрыялаў, камплектуючых, тары і ўпакоўкі, што паходзяць з краін, якія не ўваходзяць у Еўразійскі эканамічны саюз, і паступілі пасля 18 снежня 2014 года.

Павелічэнне коштаў на сыравіну і матэрыялы, камплектуючыя, тару і пачкі айчыннага паходжання, а таксама з краін Еўразійскага эканамічнага саюза не дапускаецца.

На імпартныя тавары, якія паступілі пасля 18 снежня 2014 года, дапускаецца павелічэнне адпускнога кошту не больш як на велічыню змены курсу беларускага рубля да валюты дагавора ў параўнанні з 18 снежня мінулага года. Пры гэтым рэнтабельнасць продажаў у канчатковым фінансавым выніку не можа перавышаць 3% па гэтым відзе дзейнасці.

Прадаўцы могуць ужываць гандлёвыя (аптовыя) надбаўкі па канкрэтных відах тавараў у памерах, якія не перавышаюць узровень па стане на 18 снежня 2014 года. Пры гэтым рэнтабельнасць продажаў у канчатковым фінансавым выніку не можа перавышаць 3% у цэлым па арганізацыі.

Ці дасць вынік гэтая спроба стрымаць цэны? Паглядзім. Але ніколі такія намаганні вялікага плёну не мелі.

ЛІЧБА ДНЯ

## *Адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі за 2014 год перавысіла 3,1 мільярда долараў*

Гэта значыць, што паміж аб'ёмамі валюты, якую мы трацім для куплі імпартных тавараў, паслуг і сыравіны, і валюты, якую мы атрымліваем ад продажу беларускай прадукцыі, утварылася вось такая аграмадная "дзірка". Дык адкуль жа возьмецца валюта, калі мы яе не зарабілі?

З-ЗА КРАТАЎ

## *Ігар Аліневіч зноў кінуты ў ШІЗА*

Гэта як мінімум пятае пакаранне карцарам за апошнія паўгода, што палітычны вязень правёў у калоніі „Віцьба".

Пра тое, што Ігар Аліневіч зноў знаходзіцца ў ШІЗА, паведаміла ягоная маці – Валянціна Аліневіч. Пра афіцыйныя прычыны чарговага пакарання Ігара спадарыні Валянціне нічога не вядома.

Актывіст анархісцкага руху Ігар Аліневіч асуджаны на 8 гадоў зняволення нібыта „за хуліганскія дзеянні адносна афіцыйных будынкаў". Сваёй віны палітвязень не прызнаў. Раней ён адбываў пакаранне ў калоніі ў Наваполацку, якая лічылася самай дрэннай па экалогіі. На пачатку года было прынята рашэнне аб яе расфарміраванні. У сярэдзіне ліпеня стала вядома, што Ігар Аліневіч этапіраваны ў калонію „Віцьба". А ўжо праз невялікі час на палітвязня пачаўся моцны ціск, і ён правёў цэлы месяц у ШІЗА.

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ

## Ці знікнуць расійскія лекі з аптэк?

Першае пытанне, якое ўзнікла пасля прачытання новых правіл цэнаўтварэння, распрацаваных Мінэканомікі і Мінгандлю: а ці не стануць дэфіцытам расійскія лекі – гэта ўсё ж такі тавар краіны ЕАЭС, а павелічэнне коштаў на сыравіну і матэрыялы з краін Еўразійскага эканамічнага саюза новымі правіламі не дапускаецца. Атрымліваецца, што пастаўшчыкі лекаў з Расіі апынуцца ў складанай сітуацыі, бо прэпараты ў расійскіх фармкампаній-вытворцаў яны набываюць не за расійскія рублі, а за долары.



Расійскіх лекаў, праўда, у беларускіх аптэках прадаецца нямнога, і ў асноўным гэта недарагія "Анаферон", "Арбідол", актываваны вугаль і г.д. Значна больш увозіцца ў Беларусь прэпартаў з Германіі, Францыі, Швейцарыі, ЗША. На беларускім рынку сярод імпарцёраў лекавых сродкаў Расія займае толькі шостае месца, летась доля расійскіх лекаў у агульным аб'ёме імпартных прэпаратаў склала ўсяго толькі 6,57%.

Аднак эксперты супакойваюць: расійскія лекі – гэта імпартны тавар, таму з 3 лютага могуць падрасці кошты на іх, але самі прэпараты з аптэчных паліц не знікнуць.

*– Кошты на расійскія лекі будуць фарміравацца, як і на ўсе імпартныя прэпараты, зыходзячы з курсу долара і ў адпаведнасці з нормамі ўказа прэзідэнта №366 ад 2005 года «Аб фарміраванні цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскую тэхніку»,* – тлумачыць дырэктар ТАА «Дэйтафарм» **Аляксей Прахін**. – *Кошты на ўсе імпартныя лекі, якія былі завезены ў краіну пасля 18 снежня, пералічаць. Ніхто стратна працаваць не будзе. Падобную сітуацыю мы ўжо праходзілі 4 гады таму, калі краіна перажывала чарговую дэвальвацыю. Тады дазволілі нават пераацэньваць рэшткі лекаў на складах. Трэба разумець, што рынак лекаў функцыянаваць асобна ад іншых галін эканомікі не можа.*

Дарэчы, эксперт нагадвае, што зараз беларусы сталі значна часцей лячыцца беларускімі прэпаратамі. Ужо нават не кожная другая таблетка, рэалізаваная ў аптэцы, беларускай вытворчасці. У 2014 годзе доля айчынных прэпаратаў у натуральным выражэнні на рынку лекавых сродкаў Беларусі склала 58,1% , у 2013 годзе – 57,16%.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ



*Ольга Петровна СПИГЛАЗОВА*

## В поле зрения

С годами глаза начинают хуже видеть. Мы теряем зрение из-за пожилого возраста, наследственности, условий работы, проблем с кровеносными сосудами.

**Почему прогрессирует близорукость?**
**Что выбрать: контактные линзы или очки?**
**Чем опасно отслоение сетчатки?**
**Дальнозоркость после 40 лет: норма или патология?**
**Каковы первые признаки катаракты?**

На эти и другие вопросы на «Прямой линии» ответит врач-офтальмолог высшей категории, заведующая офтальмологическим отделением медицинского центра «ЛОДЭ» **Ольга Петровна СПИГЛАЗОВА.**

Звоните **сегодня с 16.00 до 17.30** по телефону **328-68-41.**

Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте **nvonlineinfo@gmail.com** с пометкой «Прямая линия».

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ПАДЗЕІ

# Што засталося па-за тэлекадрам...

*Графік здачы ў друк мінулага нумара "Народнай Волі" не дазволіў даць стэнаграму тых фрагментаў дыялогу Аляксандра Лукашэнкі з беларускімі і замежнымі журналістамі, якія тычыліся нашай газеты. Прамая трансляцыя з Палаца Незалежнасці вялася Нацыянальным радыё, пазней тэлеканалы абмежаваліся скарочанымі версіямі. І, вядома ж, у многім падышлі тэндэнцыйна. Тыя, каму не ўдалося паслухаць прамую радыётрансляцыю, могуць не зразумець, з якой нагоды і з якой мэтай галоўны рэдактар газеты "Народная Воля" Іосіф Сярэдзіч гаварыў пра тое, што сёння Беларусі, як ніколі, патрэбна яднанне ўсіх здаровых сіл, а не канфрантацыя. Мяркуем, што для чытачоў выдання пэўную цікавасць будзе мець і той момант, калі І.Сярэдзічу давялося бараніць аўтарытэт газеты, публічна крытыкуючы дзеянні міністра інфармацыі Л.Ананіч. Вось поўная стэнаграма тых фрагментаў прэс-канферэнцыі, калі ў дыялог актыўна ўключаўся галоўны рэдактар газеты Іосіф СЯРЭДЗІЧ.*

***

**Лукашэнка:** *(падчас дыялогу з карэспандэнтам "Еўрарадыё")*: ...Оно (*мелася на ўвазе "Еўрарадыё".* – **Рэд.**) – не враждебное государству?

**Ананіч:** В рамках законодательства предупреждений еще не имеют, но мы внимательно анализируем...

**Лукашэнка:** А у Середича сколько уже предупреждений?

**Ананіч:** К сожалению, за эти многие годы...

**Лукашэнка:** 27 или 37? Мне писали...

**Ананіч:** Уже более двадцати пяти. И сейчас у нас проблема. Как пишут интернет-ресурсы, идет спор между Министерством информации и «Народной Волей». Никакого спора нет. В соответствии с законодательством в судебном порядке «Народная Воля» использовала свое право, обратилась в Верховный суд, и на заседании 23 января именно Министерство информации подтвердило правильность своих решений в отношении того, что допущено искажение недостоверной (*тут, мабыць, Ананіч агаварылася.* – **Рэд.**) информации. Причем, уважаемый Александр Григорьевич, мы ведь, анализируя то или иное СМИ, вынося то или иное предупреждение, не одни выносим решение. Мы тщательно отрабатываем каждую тему с профильными органами государственного управления. И в данном случае, когда мы говорим про «Народную Волю», то эта тема отрабатывалась вместе с Министерством иностранных дел. Поэтому...

**Лукашэнка:** Короче, виноват Макей (*Уладзімір Макей – кіраўнік МЗС Беларусі.* – **Рэд.**)...

**Ананіч:** Я думаю, что в данном случае ответственность руководителя СМИ за то средство массовой информации, которое приходит к читателю, зрителю, к слушателю, – это прописано законодательно. И в этой профессиональной аудитории, думаю, даже излишне об этом напоминать.

**Лукашэнка:** Ну правильно, плох закон, но он закон. Но я понял, что «Еврорадио» меньшее зло, чем Иосиф Середич...

**Сярэдзіч** *(з месца, без мікрафона)***:** Я прашу прабачэння...

**Лукашэнка:** О, Иосиф, здравствуйте! Иосиф, я не думал, что вы здесь, извините...

**Сярэдзіч:** Спадарыня міністр, я вам яшчэ адкажу...

**Лукашэнка:** Добра, Іосіф. Я так разумею, што вы яшчэ сваё пытанне зададзіце.

**Сярэдзіч:** Канешне.

**Лукашэнка:** Понятно, понятно... Я не думал, что Иосиф здесь. Черт меня дернул говорить про эту "Народную Волю", сейчас еще и я получу. Думал, уже тихо все будет. На тебе! Сидел тихонько... Иосиф, я ж не оскорбил вас! "Народная Воля", читаю каждый день...

***

*Праз некаторы час вядучая прэс-канферэнцыі Наталля Эйсмант дае слова галоўнаму рэдактару газеты "Народная Воля".*

**Сярэдзіч:** ...Я прыйшоў сюды не для таго, каб уступаць у дыскусію з новым міністрам інфармацыі.

**Лукашэнка:** І не трэба.

**Сярэдзіч:** Але паколькі Лілія Станіславаўна кінула пальчатку, я вымушаны падняць яе.

**Лукашэнка:** Но она женщина.

**Сярэдзіч:** Але вы можаце ўявіць, што не паспела яна асвоіць рабочае крэсла, як шле мне папярэджанне. Якое? Вы сітуацыю ў Касцюковічах добра ведаеце. Пра лёс галоўнага ўрача раённай бальніцы, думаю, пісала не толькі "Народная Воля". У рэдакцыю даслала ліст жонка гэтага чалавека, і я адчуваў, што кожны радок там быў акроплены слязой. І я даў магчымасць ёй выступіць на старонках "Народнай Волі" з адкрытым лістом менавіта да Вас, прэзідэнта краіны. Што ў гэтым лісце было сказана? Не тое, што адбыўся суд, шэсць гадоў далі... Яна (калі да Вас дайшоў гэты ліст) расказвала, што творыцца ў рэгіёне, як вядуць сябе мясцовыя князькі, мясцовыя спецслужбы. Мне асабліва ў вочы кінуўся такі факт. Чаму паляванне пачалося на гэтага галоўнага ўрача з боку мясцовых спецслужб? Таму што, калі яны ўчынілі ДТЗ п'янымі, доктар павінен быў іх прыкрыць. Ён не пайшоў на гэта. Пачалося паляванне на яго. Што



ўпалявалі? Некалькі каністраў бензіну і нейкую запчастку. І сёння чалавек гніе за кратамі...

За тое, што мы быццам бы не дачакаліся канчатковага рашэння ўсіх судовых інстанцый, мне новы міністр, якая яшчэ, паўтараю, не асвоіла крэсла, шле папярэджанне. За што? Лічу, што, наадварот, мы зрабілі і для ўлады, і для прэзідэнта добрую справу. Тым больш што чарговая судовая інстанцыя сапраўды скасціла гэтаму чалавеку тры гады зняволення, але зараз, наколькі мне вядома, ён звярнуўся яшчэ з адной скаргай. І як вы будзеце глядзець мне ў вочы, спадарыня міністр, калі гэты чалавек выйдзе на свабоду? Гэта не той выпадак, калі трэба ганяцца за галоўным рэдактарам "Народнай Волі". Я разумею, што ў свой час напісаў артыкул "Бервяно на дарозе", раней выступаў супраць Праляскоўскага... Дзе сёння Праляскоўскі?

Другое папярэджанне. Вы, Аляксандр Рыгоравіч, самі звярнуліся да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, каб тыя ўважліва паставіліся да ратыфікацыі пагаднення аб Еўразійскім эканамічным саюзе. Не дай Бог там не ўлічаны ўсе інтарэсы Беларусі. Наш публіцыст Святлана Калінкіна напісала артыкул, у якім лічыць, што не дай Божа здарыцца так, што нам трэба будзе пакінуць гэты саюз, а там, на яе погляд, ёсць шмат перашкод. Яна пра гэта выказалася. Міністэрства інфармацыі лічыць, што публікацыя Калінкінай можа нанесці шкоду дзяржаўным інтарэсам. Хто даказаў, што гэта можа нанесці шкоду? Пры гэтым папярэджанне прыходзіць у рэдакцыю праз 46 дзён пасля публікацыі. У краіне не адбылося ніводнай дэманстрацыі, ні аднаго мітынгу супраць гэтай дамовы. Якую шкоду можа нанесці публіцыст сваім меркаваннем? Што, журналісты павінны стаяць убаку? І вось такіх папярэджанняў за 20 гадоў існавання "Народнай Волі" сапраўды набралася больш за 20...

Я хацеў бы ўсіх прысутных запрасіць 11 ліпеня на 20-годдзе газеты і сказаць: пакуль рэдактар "Народнай Волі" жывы, газета будзе выдавацца. Не ў Мінску – у Смаленску. Не ў Смаленску – у Маскве. Не ў Маскве – у Варшаве, Берліне...

А зараз хачу сказаць пра тое, што сапраўды мяне хвалюе як грамадзяніна Рэспублікі Беларусь. У жніўні 2011 года Вы, Аляксандр Рыгоравіч, сказалі на нарадзе педагагічнага актыву Беларусі наступнае (цытую): *"Я, как глава государства, предлагаю всем здравомыслящим и любящим свою страну людям, к какому бы политическому лагерю они ни принадлежали, сесть за "круглый стол", посмотреть друг другу в глаза и реально оценить, кто чего стоит и что может сделать для эффективного улучшения ситуации в стране* (канец цытаты)". Памятаеце гэтыя словы?

**Лукашэнка:** Возможно.

**Сярэдзіч:** Мне здаецца, што наступіў той час, калі вось гэтыя словы павінны стаць вызначальнымі для Беларусі. Хоць вы, Аляксандр Рыгоравіч, і аптыміст, але нельга ўсё ж такі не заўважаць, што сітуацыя ў нас надзвычай складаная. То з аднаго боку, то з другога насоўваецца небяспека. У паўднёвых суседзяў вайна, і не дай Бог, каб яе полымя перакінулася да нас. У расіян наогул цяжка сказаць, што творыцца. З Захадам адносіны, здаецца, наладжваюцца, але да нармальных яшчэ вельмі далёка. Эканоміка краіны, як мне падаецца, не вытрымлівае тых выпрабаванняў, якія зваліліся. Адным словам, трывожна. Таму я як грамадзянін Беларусі, не здымаючы з сябе асабістай адказнасці за лёс краіны, хачу спытаць: калі *такие люди* сядуць за "круглы стол" і разам знойдуць шляхі-дарогі выратавання нацыі ў цяжкі час? Мне здаецца, што любая канфрантацыя ўнутры краіны – гэта гібель для Беларусі. Яе імгненна выкарыстаюць тыя ж імперцы, і тады мы будзем толькі разводзіць рукамі. Вось чаму няма альтэрнатывы аб'яднанню ўсіх здаровых сіл. На жаль, гэтых лёсавызначальных рэчаў, на мой погляд, не разумеюць многія чыноўнікі, якія вас акружаюць. Я магу прывесці канкрэтныя прыклады, пацвярджаючыя такі вывад. Але паколькі фармат гэтай сустрэчы не дазваляе доўга распавядаць, то, Аляксандр Рыгоравіч, я прасіў бы знайсці магчымасць і прыняць галоўнага рэдактара "Народнай Волі"...

**Лукашэнка:** Последнее самое простое... Я вам обещаю, если у вас, конечно, есть ко мне вопросы... Второе (*у адрас апарату Адміністрацыі прэзідэнта.* – **Рэд.**). Вы, пожалуйста, держите меня в курсе дел в "Народной Воле". Я не могу отметать то, что сказано Иосифом Середичем сейчас. Может, действительно там "наступствы" какие-нибудь на "Народную Волю". Нам это не надо. Мне это не надо. Да, есть такая газета. Знаете, если я говорю об оппозиционной какой-то газете, я всегда говорю: "Народная Воля" – для меня это оплот оппозиционности. Может, я прав или не прав, часто шутя говорю. Но она состоялась, эта газета существует, у неё, как говорится по-вашему, свой читатель. Наверное, и не только свой читает. Отследите, чтобы эта газета была в моей папке каждое утро на столе. Я смотрю вашу газету. Не скажу, что я до дыр зачитываю какие-то газеты, я ведь направленность знаю. Ситуацию знаю не хуже журналистов. Поэтому по диагонали или где-то внимательно обращаю внимание и по многим вашим публикациям (только не зазнавайтесь) давал поручения, чтобы разобрались. Очень многие...

Знаете, я давал эти поручения своему собственному сыну. Кстати, он для того там и находится, чтобы объективно взглянуть на вещи и мне честно доложить. Меня удручало порой, Иосиф, когда мы ехали по факту, а там тех людей не было. Ну, я думаю, ладно, журналисты всякие печатают заметки. Но уж очень острые были материалы! И он приезжал, говорил: "Папа, там таких людей нет". Вот указывается где, откуда человек, а его нет. Мы же его не разыскивали спецслужбами, милицией с автоматами. Это сын президента приехал...

**Сярэдзіч:** Аўтараў там не было ці герояў? Гэта розныя рэчы. *(Мелася на ўвазе, што аўтары маюць права на выкарыстанне псеўданімаў.* – **Рэд.**)

**Лукашэнка:** Я не хочу конкретно говорить, каких вещей касалось, но это было и не единожды. Это часто читаю и в интернете, и в других газетах. Думаю, ну ладно... Как-то даже и неприятно было. Но у нас давние с вами отношения, лет 30 им. И я часто признавался, что, наверное, и ваша капля в моей судьбе есть. Когда мы, сидя с вами в редакции "Советской Белоруссии", писали там статьи, вы меня допрашивали, вы меня дергали, вызывали... Я это помню. Я не без памяти человек. Ну, думаю, раз Середич написал – проверю. Проверил – не всегда получалось так, чтобы... Но я реагирую. И все должны знать – какая бы там оппозиционная, желтая газета ни была, но если там факт резкий, особенно тот, о котором вы рассказали... Мне стыдно, конечно, но я не видел этого факта. Но его надо поднять...

**Сярэдзіч:** Аляксандр Рыгоравіч, я рэагую нават на коску. Калі мне вядома, што коска не там пастаўлена, я заўтра раблю папраўку. Паверце, хто чытае рэгулярна газету, ведае, што сёння больш сумленнай і аб'ектыўнай газеты ў нас не існуе. І дай Бог, каб такіх "Народных Воляў" былі дзясяткі. Гэта на карысць уладзе, грамадству і ўсім нам.

**Лукашэнка:** Ну вот ты накаркай еще мне десяток "Народных Воляў". Дай мне справиться с одной... Но я еще раз говорю – выбросьте это из головы, что вот мне надо зачистить поле, чтобы не было других мнений. Я уже приводил вам пример... Пока нет двух-трех мнений, совещание не проводится. Зачем ко мне приходить и рассказывать? Я прочитаю одно мнение. Поэтому не страшно, что люди пишут о том, что есть на самом деле. Да, "Народная Воля"... Мне в ней не нравится больше всего тенденциозность. Но, наверное, можно в этом упрекнуть и Якубовича. У него тоже другая заданность. Еще у кого-то... Вы знаете, что мы "Народную Волю" в Администрации президента продаем в киоске. Вы хоть это знаете?

**Сярэдзіч:** Безумоўна.

**Лукашэнка:** Мы никого не запрещаем. Пускай читают люди. Если Ананич... Хотя, назначая ее, я боялся, что она будет такая вот мягкотелая. Что она где-то ни Середичу, никому замечания не сделает...

**Сярэдзіч:** Трэба яе да нас на год на практыку прысласць.

**Лукашэнка:** Во!

**Сярэдзіч:** Яна ж ніводнага дня ў прэсе не працавала.

**Лукашэнка:** *(Смяецца.)* Не надо, Иосиф! Иосиф, ее только не в "Народную Волю", я тебя прошу... Пускай в "Советской Белоруссии" практикуется уже у Якубовича... Поэтому я, конечно же, займусь... Что касается ситуации. Вы знаете, я готов с вами спорить на сей счет. Вы, может быть, острее видите эту проблему. Но я не скажу, что вы более информированы, чем я. Дело в том, что наши должности разные. Вы можете вот так эмоционально на что-то отреагировать. Я на это не имею права, даже если и хотел бы. Поэтому, если я где-то что-то вижу (а я, поверьте, вижу много чего) и если я публично не "пылю", в том числе и в "Народной Воле" интервью не даю, то это не значит, что проблемы нет и я ее не вижу. Особенно что касается безопасности...

Если я безопасность государства не обеспечу, вот тогда меня стоит повесить вниз головой или на веревке, как раньше вешали. Это моя кровная обязанность – безопасность белорусского государства. Если вы считаете, что во имя этой безопасности, а не во имя чего-то, мы должны сесть за "круглый стол"... Или кто-то, вы же не говорите, что я там должен сесть... Политики и прочие – пожалуйста. Я могу проинициировать такое собрание. Вы можете сесть... Но не для того, чтобы гвалт там устроить, насторожить общество для того, чтобы выплеснуть это в СМИ.

Если есть желающие поработать в этом направлении, внести предложения (особенно новые, которых я не вижу), буду вам только благодарен. Но не под какие-то там политические события, под выборы, чтобы "засветиться", показать... Это тоже надо. Только я в этом не хочу участвовать. Это делайте, мы не будем это пресекать. Хотите в "Народной Воле", хотите, чтобы где-то мы вам помогли организовать предвыборные какие-то мероприятия, обсуждения – пожалуйста. Хотите – я направлю туда своего помощника, чтобы он послушал. Но я не хочу в предвыборных баталиях участвовать. Вы знаете, я не принимал физически участия в тех выборах, я не буду принимать участия и в этих выборах. Мне говорить народу то, что я буду делать, не с руки. Народ знает, что я буду делать. Он знает, что я не могу перевернуться, потому что это уже будет крах для моей политики. Поэтому, если это связано не с разными политическими выборами, а с безопасностью государства, я готов.

**Сярэдзіч:** Апошняе, галоўнае.

**Лукашэнка:** Да, если вы внесете соответствующее предложение даже по лицам – пожалуйста. Давайте обсудим эти вопросы. По факту мы увидим, на что способны те люди, которые придут обсуждать вопросы безопасности. Специалистов пришлем, Межуев приедет. Госсекретарь к вам приедет, он у меня главный помощник по вопросам безопасности. Высшее должностное лицо, выше некуда. Это вопрос не правительства... Он приедет, если нужно обсудить, и мне доложит. Есть там что-то, что можно выжать из этого разговора, будем обсуждать. Я ничего не отбрасываю. И я не хочу сказать, что Беларусь – это больше моя земля, чем ваша. Это наша земля. У нас другой нет. У нас разные взгляды, «погляды на тыя ці іншыя працэсы», однако земля эта наша. Она общая, она единая, и мы должны ее защищать. Да, можно где-то "тузаць адзін аднаго", можно даже где-то морду друг другу побить. Но если время есть для этого, чтобы «тузацца». А когда беда у порога, как вы это видите, тогда «тузацца» не надо. Тогда надо объединяться для того, чтобы защитить свою землю. И вы правильно сказали – нам сейчас конфронтация не нужна.

**Сярэдзіч:** Ні ў якім выпадку.

**Лукашэнка:** Потому что... Ну ясно, каким-то политикам в тюрьме выгоднее сидеть, потому что надо показать себя героем. Кому-то хочется во власть идти. Это тоже нормально. Пусть борется по политическим законам. Но Середичу это не надо, я это знаю точно. Да, у него есть свои взгляды.

**Сярэдзіч:** Канфрантацыя ні Сярэдзічу, ні ўсім прысутным, ні краіне не патрэбна.

**Лукашэнка:** Абсолютно правильно.

**Сярэдзіч:** І трэба спыняць, калі не дай Бог хто распальвае гэта. Вось чаму я з такой прапановай і выйшаў. Сёння трэба аб'ядноўвацца, а не канфрантацыю ладзіць.

**Лукашэнка:** Да, только знаете, о чем бы я вас попросил. Чтобы мы не перебирали здесь. Чтобы не было здесь излишества. Я же понимаю намек. Ай-яй-яй, вот Россия, кто бы мог поверить, что... Но вы правы. Вот это заявление и мое. Кто бы мог поверить, что Украина там эту бучу на российской границе устроит, и что Россию в это втянут или Россия там... Никто не мог поверить. Это правда. Но мы не Украина. Мы не допустим таких ошибок, которые допустили власти Украины...

У нас тоже в свое время начали заниматься – "мова, мова, мова" и "больш нічога". Людям жрать нечего, а тут "мова, мова" каждый день. То же произошло в Украине в другой ситуации. Я говорил это и Саше Турчинову, когда он исполнял обязанности президента Украины, говорил и нынешнему президенту. Что, в Крыму это надо было делать? Запугивать русских людей, что мы вас там перережем, зарежем и запретим на языке разговаривать. Это надо было делать? Зачем подставляться было? Украинцы это воспринимают. Когда я эти заявления делаю, они нормально к этому относятся. *(Пауза.)* Подставились. Мы не подставимся. Я не дам возможность себя таким образом подставить. Хотя я не думаю ни на минуту, что вот у нас угроза со стороны России. Абсолютно нет.

Вы знаете, чего я боюсь? Я не могу сказать, насколько я погружен сейчас в этот конфликт. Не могу. Потому что идет очень тяжелая работа. Я боюсь только одного – что, если мы дальше на Востоке будем воевать, в Украине, мы в это болото соберем всю дрянь со всего мира. Вы же знаете, сколько их на Востоке, в Африке, сколько их на Кавказе, за Кавказом и так далее. Сколько их в Америке и в Европе шатается! И все они хотят заработать деньги. Наверное, не тысячи – сотни тысяч людей, которые зарабатывают, воюя на той или иной стороне. И они, как тараканы, ползут там, где жарко. Где развязана эта война. И они уже там есть. И вот если они туда соберутся, выкуривать их будет сложно... Оттуда они поползут в Россию прежде всего, в тот же Крым. И к нам. Вот меня что больше всего волнует, если вы хотите откровенности. Меня это больше всего волнует, а не то, что я с русским человеком завтра буду воевать.

Но, Иосиф, для меня все равно, кто будет воевать против Беларуси. Если он придет к нам с мечом – мы ответим тем же.

**Сярэдзіч:** Правільна!

**Лукашэнка:** Поэтому вы не думайте, что я тут крылья сложил, смотрю по сторонам и думаю: все нормально, все нормально. Я знаю 41-й год и не по книжкам. Знаю, когда все друг друга успокаивали от Кремля до Буга, что все будет хорошо и войны этой не будет. Ну ладно, не надо было провоцировать Германию. Но почему летчики не сидели в самолетах в эту ночь или накануне?.. Тысячи диверсантов, преодолев границу, ликвидировали всю охрану на всех важных объектах... Почему? Из-за нашего головотяпства... Поэтому я знаю уже кое-что больше, чем обычный Лукашенко – преподаватель или историк. Я многому научился, я увидел, что было не так. Это для меня сигнал. Но я, Иосиф, не могу об этом говорить, как ты, – постоянно. Ты вот просто меня вынуждаешь сказать. Поэтому – успокойся!

**Сярэдзіч:** Дзякуй.

**Лукашэнка:** Я все это вижу. Я все это знаю. И вот новый министр обороны сидит. Если у вас желание есть, он вам расскажет, что я их там сейчас шмонаю и терзаю бедных так, что они не рады, что у них такой Главнокомандующий. Я третий раз модернизирую армию. Я приспосабливаю ее к тому, чтобы мы могли нормально ответить. Я сделал выводы из украинских событий: армия 500 тысяч по численности – армии нет. Но я еще раз хочу сказать – не дай Бог нам воевать с русским человеком. Не дай Бог! Это будет катастрофа. Планетарная! Мы, родные люди, в одном доме начнем воевать? Поэтому не должно быть этих заявлений. В России дураков хватает. Они уже меня с Каддафи сравнивают, что меня там на кол посадят... Я все это вижу. Только не известно еще, кто кого на кол посадит. Мы не должны им уподобляться. Обстановка и так накалена. Нельзя разогревать эту обстановку, чтобы мы с русскими столкнулись. Потому что мы сами русские люди по большому счету.

**Сярэдзіч:** Аляксандр Рыгоравіч, дзякуй за шчырасць.

**Лукашэнка:** Пожалуйста, какие еще вопросы?.. А что касается приема, то, пожалуйста. Давайте в конце февраля, когда больше освобожусь и буду на месте, мы поговорим...

***

**Лукашэнка** *(падчас адказу на пытанне прадстаўніка Радыё АНТ)*: ...Я в общем охарактеризую наш диалог. Вы знаете, я уже привык к этому. На прежних наших встречах присутствовали оппозиционные и другие СМИ, которые не очень с нами согласны. Было много неконструктивного, выпадов каких-то даже. Сегодня я это не заметил. А апогеем всего была часть выступления Иосифа Середича, когда он сказал: нам не нужна сейчас конфронтация. Никому! Ни президенту, ни оппозиционерам, ни власти, никому. Вот если бы мне до пресс-конференции это сказали, что такой дух атмосферы будет нашего диалога и что Середич так выскажется, я бы не поверил. Но был пик его настроения – хватит бодаться друг с другом. Хватит! Земля одна. Мы на этой земле – другой не будет. Сколько мы будем драться? Возьмите эту так называемую оппозицию... Я ее называю так, потому что там половина тех, которые ушли от меня. Приведя меня к власти, они ушли и сегодня меня дубасят со всех сторон. Какое вы имеете моральное право на это? Вы же этого президента-диктатора посадили во власть. Почему вы об этом не подумали? Вы что, народ за дураков держите?.. Вы причастны к тому, что вы создали. Вы сейчас одумались? Ну что же, тогда идите в пристежку к Середичу, помалкивайте и делайте то, что он скажет. Но не вылазьте! Я не прав?..

...Была нормальная заинтересованная атмосфера. Я почувствовал, что не только я, а даже оппозиционеры не заинтересованы в том, чтобы идти стенка на стенку. Может, я не совсем правильно это понял. Может быть, не выполнено мое указание пригласить сюда всех желающих оппозиционных деятелей-журналистов. Я вам честно скажу – три дня назад пригласил Радькова, Косинца и пресс-секретаря и сказал им. Первое – это не должна быть пресс-конференция. Это должен быть диалог. Если люди хотят говорить – пусть говорят. Второе. Все желающие оппозиционные издания должны быть во Дворце Независимости. "Есть, так точно..." Я так понимаю, что вы это выполнили... Поэтому это было мое жестокое требование. И я, если это так, если здесь действительно есть оппозиционные представители и у нас конструктивный диалог, я только рад этому... И я заранее задумал задать вопрос: "Иосиф, ты мне скажи честно, здесь оппозиционеры есть? Представители оппозиционных газет? Ты же их должен знать...»

**Сярэдзіч:** Некалькіў гадоў таму я вам прыкладна на такое ж пытанне адказваў. Што тычыцца "Народнай Волі", то газету вы ў свой час назвалі суперапазіцыйным выданнем. Я з вамі не пагадзіўся. Я сказаў, што "Народная Воля" проста дэмакратычная газета недзяржаўнага кшталту. Таму хто як лічыць. Хоча нехта лічыць "Народную Волю" суперапазіцыйнай газетай – калі ласка. Я ж асабіста лічу, што апазіцыйнасць – гэта пазіцыя любога з нас у адносінах да справядлівасці, да праўды, да аб'ектыўнасці. І, калі менавіта так падыходзіць, то апазіцыйнай можа быць і "Советская Белоруссия", апазіцыйнымі могуць быць тэлеканалы. Самае галоўнае – каб яны не здраджвалі сэнсу жыцця нашага.

**Лукашэнка:** Я задал... Может быть, мы несколько по-разному это понимаем... Вот такие свободомыслящие представители, как ты, здесь присутствуют?

**Сярэдзіч:** Безумоўна... Усе, хто не працуе ў дзяржаўных выданнях, іх адначасова можна лічыць і апазіцыйнымі выданнямі...

УЧОРА



# Peugeot беларускай зборкі

*Учора ў Беларусі пачалі прадаваць аўтамабілі маркі Peugeot, сабраныя на заводзе «Юнісон» пад Мінскам.*

Цяпер дылерскія цэнтры Peugeot могуць прапанаваць пакупнікам дзве мадэлі: седан Peugeot 301 і красовер Peugeot 3008.

Peugeot 301 прадстаўлены ў камплектацыі Access, Active ці Allure з бензінавымі рухавікамі 1,2 ці 1,6 л і аўтаматычнай ці механічнай КПП. Цэны на аўтамабіль пачынаюцца ад 182 мільёнаў рублёў.

Peugeot 3008 можна набыць у камплектацыі Active ці Allure. Іх аснашчаюць бензінавымі рухавікамі 1.6 VTi (120 к.с.) ці 1.6 THP (150 к.с.) і аўтаматычнай ці механічнай КПП. Мінімальная цана Peugeot 3008 – 314 мільёнаў рублёў.

У сувязі з адкрыццём уласнай вытворчасці, магчыма, дылеры Peugeot цалкам пяройдуць на аўтамабілі беларускай зборкі, і пакупнік не зможа выбраць паміж Peugeot беларускай і замежнай зборкі.

Пра гэта паведаміў дырэктар па маркетынгу «СП Аўта Груп» Валянцін Трыгорлаў. Ён таксама расказаў пра меркаваныя аб'ёмы вытворчасці.

*«У 2014 годзе мы планавалі выпусціць каля 2500 аўтамабіляў. Аднак сітуацыя на рынку змянілася, асабліва ўлічваючы тую колькасць машын, якая была прывезена беларусамі з Расіі. Праз два-тры месяцы рынак дасць больш дакладныя лічбы, аднак зразумела, што аўтамабіляў будзе зроблена менш»,* – сказаў Трыгорлаў.

Ужо ў сакавіку плануецца распачаць продаж Peugeot Partner і Peugeot 508, а таксама Citroën C-Elysee і Citroën Berlingo беларускай зборкі.

СУД

# Усе прызналі сваю віну

Блізяцца да завяршэння судовыя слуханні па гучнай справе аб забойстве ў Мінску Юліі Саламацінай, якое ўскалыхнула грамадскасць жудаснымі падрабязнасцямі пра тое, як забойца і ягоная маці пазбаўляліся ад цела. Учора пракурор папрасіў суд прызначыць галоўнаму фігуранту справы аб забойстве Юліі Саламацінай Паўлу Цыняўскаму 17 гадоў пазбаўлення волі.

Маці абвінавачанага Галіну Цыняўскую дзяржаўны абвінаваўца папрасіў асудзіць да 2 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму. Хаця менавіта яна, нібы вопытны повар, "апрыходавала" труп дзяўчыны, каб яе немагчыма было ідэнтыфікаваць.

Акрамя таго, пракурор папрасіў суд спагнаць з абвінавачаных у сукупнасці 2 мільярды рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды на карысць маці загінуўшай.

І ТАК БЫВАЕ...

# Хочаце развітацца з аўто?

На двух памежных пераходах у Падляскім ваяводстве польскія мытнікі толькі за студзень 2015 года канфіскавалі ў гродзенцаў шэсць аўтамабіляў. Прычынай сталі выяўленыя кантрабандныя цыгарэты, піша «Вечерний Гродно».

Дарэчы, адзін з парушальнікаў паставіў своеасаблівы рэкорд: у яго канфіскавалі машыну другі раз за тры месяцы. Першы раз яго аўто забралі ў лістападзе, а ўжо ў студзені ён зноў павёз цыгарэты ў тайніку.

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Жыхар Воранаўскага раёна выразаў у суседа 15 авечак

Матывам злачынства стала помста за дробны крадзеж гаспадарчага інвентара.



Як паведамляе Следчы камітэт, познім вечарам неаднаразова судзімы непрацоўны жыхар аднаго з сельскіх населеных пунктаў прабраўся ў суседскі хлеў і зарэзаў 13 авечак і двух ягнят. Зламыснік пры гэтым быў п'яны.

Следчыя высветлілі, што матывам злачынства стала помста за дробны крадзеж гаспадарчага інвентара. Кошт забітых жывёл склаў 17,9 мільёна рублёў.

Следчыя працягваюць высвятляць абставіны здарэння, а таксама правяраюць падазронага на спрычыннасць да іншых злачынстваў. На падазронага завялі крымінальную справу за наўмыснае знішчэнне маёмасці ў значным памеры.

УВАГА!

# Бясплатныя заняткі па беларускай мове і гісторыі Беларусі

для вучняў 7–9-х класаў з вядомымі навукоўцамі і педагогамі!

Арганізацыйны сход – 2 сакавіка (панядзелак) у сядзібе ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" (вул.Румянцава, 13, ст.метро "Плошча Перамогі"). Пачатак – 17.00.

ЗДАРЭННЕ

# Падарваў сам сябе

Выбух прагрымеў у нядзелю вечарам паблізу бабруйскай крамы «Кошык».

Паводле папярэдніх дадзеных, падарваў сябе мужчына, асоба якога пакуль не ўстаноўлена. Выбух быў не вельмі моцны, таму акрамя самападрыўшчыка, больш ніхто не пацярпеў. Ды і час быў позні, на вуліцы на той момант практычна не было людзей.

Работнікі крамы, якія першымі ўбачылі страшную карціну, неадкладна выклікалі на месца надзвычайнага здарэння міліцыю і „хуткую". Адна з прадаўцоў распавяла, што пацярпелы мужчына (паводле яе слоў, гадоў 50-ці, прыстойна апрануты) спачатку зайшоў у краму, купіў дзве бутэлькі гарэлкі, адну віна і мандарыны. Папрасіў прадаўца адкрыць адну бутэльку, прапаноўваў выпіць разам, пры гэтым, паводле слоў жанчыны, сказаў: "Мне ўжо ўсё роўна..."

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

Стала вядома, што Следчы камітэт устанавіў асобу загінуўшага ад выбуху ля бабруйскай крамы, але яго імя не разгалошваецца да канца следчых дзеянняў.

"Гэта мужчына 59 гадоў. Мяркуецца, ён быў інвалідам 2-й групы. Цяпер следчыя правяраюць, ці стаяў ён на ўліку у псіха- альбо наркадыспансеры. Паводле папярэдняй інфармацыі, мужчына быў хворы на анкалогію", – паведамілі ў Следчым камітэце Магілёўскай вобласці.

Вядома таксама, што ў загінуўшага засталіся жонка і сын.

КАРЬЕРА

# Как Медведева покорила Москву…

***Наша землячка Ирина Медведева стала настоящей звездой. У Ирины было много попыток «засиять» в российском шоу-бизнесе, однако настоящий старт ей дала главная роль в культовом мюзикле «Пола Негри», премьера которого состоялась лишь в прошлом году. Между прочим, это первый в мире 3D-мюзикл, который зрители смотрят в специальных очках. Сюжет спектакля основан на событиях из жизни легенды немого кино и первого секс-символа «эпохи грез» Полы Негри. Именно эту роль и исполняет наша Ирина Медведева.***

Ирина Медведева, актриса театра и кино, родилась в Бобруйске 14 августа 1982 года. Родители Ирины работали на заводе «Белшина», а сама она училась в школе с математическим уклоном. Благодаря общительному характеру девочка стала принимать участие в различных конкурсах и получать призы. Помимо школьных занятий, Ира посещала театральную студию и секцию по легкой атлетике. Мечтая стать певицей, занималась в музыкальной школе. По окончании школы решила поступить в театральный институт, поскольку в вуз вокально-эстрадного искусства был слишком высокий конкурс.

Творческая биография актрисы Ирины Медведевой началась с прослушивания в Белорусской академии искусств, на котором Ирина получила самую высокую оценку, и это заставило девушку поверить в себя. Будучи на первом курсе, она получила приглашение от Сергея Минаева, известного шоумена, сняться в клипе. Затем одна за другой последовали эпизодические роли в сериалах, и становление актрисы, таким образом, началось.



## Переезд в Москву

В 2002 году у Ирины Медведевой состоялся дебют на белорусском телевидении, после чего она стала работать на Первом музыкальном канале. По окончании Академии искусств получила красный диплом и поступила на работу в Театр белорусской армии, одновременно снимаясь в кино и на телевидении.

Прослышав о театре Олега Табакова, Ирина решила попытать счастья в Москве и, недолго думая, отправилась в российскую столицу. Ей удалось встретиться с Олегом Павловичем, однако в труппу театра Медведеву не приняли. Табаков впервые увидел Ирину, а чтобы принять на работу актера, художественный руководитель театра должен знать его послужной список. Олег Табаков мягко посоветовал прийти хотя бы через год. Несмотря на это, Ирина осталась в Москве и пошла работать. Так, будущая актриса Ирина Медведева, фото которой получили все кастинговые агентства Москвы, стала работать в одном из московских казино администратором, затем устроилась на место секретаря главного редактора бульварной газеты. На этой должности, правда, продержалась недолго: ее вскоре выгнали из-за ненадлежащего исполнения своих обязанностей. И тогда Ирина стала ходить по всем кастингам в надежде получить хоть какой-то ангажемент.



## Сериалы

После долгих ожиданий Ирину приняли в реалити-шоу «Факультет юмора» на канале РЕН ТВ. Через год Ирина Медведева присоединилась к актерскому составу популярного шоу «Дорогая передача», еще через год стала одной из ведущих актрис в передаче «Шесть кадров», выходившей на телеканале СТС.

С 2006 года карьера Ирины Медведевой пошла в гору. Актриса стала получать роли в популярных сериалах. В 2006-м она приняла участие в сериале «Кадетство» Вячеслава Муругова, в 2007 году сыграла в романтическом фильме «И все-таки я люблю...», а затем в остросюжетной постановке «Агония страха». 2008 год для Ирины Медведевой начался с фантастической комедии «Тариф Новогодний»...

## Певица Ирина Медведева

Помимо участия в многочисленных фильмах и телесериалах, Ирина поет романсы. У нее пока нет сольных концертов, но ее участие является украшением любой музыкальной программы или конкурса. В 18 лет Медведева получила премию на фестивале «Поют и читают актеры» в номинации «За лучший дебют». Тогда Ирина исполнила романс «А напоследок я скажу» на слова Беллы Ахмадулиной. А спустя два года на этом же фестивале Медведева получила Гран-При за проникновенное исполнение песни «Страдальная».

## «Ледниковый период»

В сентябре 2013 года Ирина Медведева, актриса, свободно катающаяся на коньках, приняла участие в проекте Первого канала российского телевидения «Ледниковый период», ее партнером был фигурист Повилас Ванагас. Пара выступала неровно, то выходила на первое место, то отставала, однако в большинстве случаев Ванагас и Медведева держались в середине квалификации.

## Личная жизнь

Личная жизнь Ирины Медведевой не отличается многообразием, она была замужем один раз, ее бывший супруг – певец Руслан Алехно. Молодые люди познакомились еще в Минске, когда Ирина пришла работать в Театр белорусской Армии, а Руслан там как раз выступал на сцене в качестве вокалиста. Затем они несколько лет не виделись и только в 2004 году вновь встретились, с тех пор уже не расставались. Прожили пять лет в гражданском браке, потом решили расписаться. Руслан сделал Ирине предложение в романтическом стиле, опустив обручальное колечко на дно бокала с вином. 18 июля 2009 года они зарегистрировали свой брак. Однако вскоре начались разногласия, недоверие и ревность. Желтая пресса подливала масла в огонь, выкладывая на страницы журналов компрометирующие фотографии. В итоге Ирина Медведева и Руслан Алехно развелись в 2011 году.

## «Звезда»

Показы мюзикла «Пола Негри» – первого спектакля в формате 3D-live старотовали только в конце сентября прошлого года. Критики утверждают, что счастливая идея соединить театр с современными кинотехнологиями оказалась и в высшей степени эффектной, и явно эффективной. Показы проходят с ошеломительным успехом. В главных ролях: Ирина Медведева, Гоша Куценко, Максим Леонидов... И теперь Ирину не в шутку, не авансом, а абсолютно серьезно называют «новой звездой сцены».

ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

# «Друг познается не только в беде»

**– Без чего вы в первую очередь не представляете себе жизнь – без еды, сна или воды?**

– Без сна. Я всегда говорю, что на первом месте сон, на втором – еда, а потом уже искусство. Недавно во время танцевальной репетиции у меня от голода закружилась голова. Пришлось прервать занятия и пойти поесть. Это не звездная прихоть, а необходимость: если сейчас не поем, через три часа я просто не сыграю спектакль. Но все-таки главное – выспаться. Когда нас встречают в гостинице и сразу приглашают на завтрак, я, как правило, отказываюсь в пользу сна.

**– Великолепная фигура при такой любви к еде – это генетика или результат работы над собой?**

– Подозреваю, что наследственное, так что спасибо родителям!

**– Еще, наверное, правильное питание?**

– Вы удивитесь, но я ем очень много мучного! Не кокетничаю: у меня даже в райдере было прописано наличие в гримерке кофе и какой-нибудь выпечки. Но все резко изменилось, когда я сдала анализ на глютен...

**– У вас обнаружилась непереносимость глютена?**

– Абсолютно верно. Оказывается, с детства мне нельзя есть некоторые продукты. В течение 30 лет мой организм как-то справлялся, но сейчас, видно, настал предел. Я кардинально изменила рацион, но организм пока не успел перестроиться. В итоге я похудела еще больше. Такое со мной уже было три года назад, когда полностью отказалась от мяса.

**– Это было связано с какими-то морально-этическими убеждениями?**

– Моя подруга – веган. Мало того что она не ест животную пищу, так еще и участвует во всевозможных акциях. Я на такие подвиги пока не готова. В театральном институте со мной произошел ужасный случай. Шел урок, преподаватель увлеченно рассказывала нам о Станиславском и Чехове. Я же взглянула на часы и поняла, что уже 15 минут как начался обед. Поднимаю руку и робко говорю, что неплохо бы поесть. На самом деле я хотела намекнуть, что потом у нас не будет на это времени. Преподаватель встала: «Урок окончен!» и вышла. Понятно, что она была оскорблена. Но весь курс меня благодарил – есть-то хотела не только я: «Ты сумасшедшая! Но спасибо огромное – выручила!» Конечно, потом я перед преподавателем извинилась.

**– Вы кажетесь абсолютным экстравертом, но так скупо говорите о личной жизни…**

– Это правда. Я не пускаю журналистов к себе домой, не веду активную деятельность в социальных сетях, не занимаюсь самопиаром.

**– Вы по-прежнему близки с сестрой?**

– К счастью, да! Это она дала мне имя. Мама хотела назвать меня Мариной, но сестра посмотрела на меня и произнесла: «Иришка». Кстати, никто в семье не называет меня Ира. Если я слышу такое обращение, это значит, что произошло что-то не очень хорошее или на меня обиделись!

**– А вы как ощущали себя в детстве?**

– Я была маленькой в этом мире. И дело не в моем небольшом росте и худобе – это такое мироощущение, которое частично сохранилось до сих пор. Помню, что на легкую атлетику, в театральные и вокальные кружки добиралась сама. Мне нравилось самостоятельно идти по жизни, хотя я очень ценю семью. Недавно поймала себя на мысли, посещавшей меня в детстве: «А как повели бы себя окружающие, если бы я умерла?» Получается, что мы не взрослеем. Мы просто большие дети, у которых рождаются свои дети.

**– Откуда такие грустные мысли?**

– Может, от недостатка внимания? Хотя о чем я... Наша семья жила в общежитии, поэтому меня с детства окружало много людей. У меня хорошая семья, куча родственников, так что я росла в любви и гармонии. Не могу сказать, что мы жили в бедности, но я знаю цену вещам.

**– Наверное, дорожили своими игрушками?**

– Да, потому что шила их сама. Записалась в кружок мягкой игрушки, ткань брала у бабушки, которая работала портнихой. До четырнадцати лет всем на день рождения я шила игрушки и тапочки. Все эти подарки до сих пор хранятся на даче. В девять лет я мечтала о кукле Барби, которая была большой редкостью. Помню, как меня вместе с другими чернобыльскими детьми отправили укреплять здоровье в Германию. Семья, в доме которой мы жили, подарила мне Барби. Вы не представляете, какое это было счастье! В магазине игрушек я попросила оставить меня там хотя бы на десять минут. Там была куча кукол, масса одежды, домиков, посуды, все это еще и в розовом цвете. Рай! В детстве меня не баловали, но это неплохо. Моя племянница получает все, что захочет, но теперь я стала ее ограничивать. Им не о чем мечтать.

**– Что вас поразило в Нью-Йорке?**

– Честно говоря, город меня особо не поразил. Единственное, что впечатлило, – это Центральный парк. Чтобы прочувствовать атмосферу города, решила попробовать американскую еду. Гамбургеры я не ем, поэтому тогда меня привели в суши-бар. Я спец по этому блюду. Так вот, разница кардинальная! Однажды я зашла в «Макдоналдс» купить кофейный коктейль. Как там грязно! У нас все просто супер в этом плане. Еще меня поразило то, что в Америке – с ее огромной модельной индустрией, недорогими вещами и обилием распродаж – люди одеваются ужасно. Я решила пройтись по магазинам и обновить гардероб. Под конец у меня все плыло перед глазами. Я купила платье, и когда шла в нем по улице, слышала вслед: «Perfect! Pretty! Waw!» В магазине меряю что-то, проходят мимо люди – куча комплиментов, но сами ничего не примеряют! Видимо, проблема со вкусом. Помню, в «Тиффани» за мной ходила китаянка и выспрашивала, что за аромат у меня. Их дресс-код – шорты умопомрачительного цвета и огромная вытянутая майка. Удобство – вот главный приоритет американцев.– Они просто не хотят уделять этому время.– Безусловно. Но в Америке я воплотила свою детскую мечту. Обожаю фильм «Завтрак у Тиффани». Я отправилась туда позавтракать и сделать гравировку. Думала, что они работают всю ночь, как в фильме. Оказалось, что открываются они в десять утра. Завтрака не получилось, зато сложился день. Там шесть этажей, поэтому просто так не уйдешь! Я присмотрела и очки, и кружку, и кое-что еще. Вещи иногда приносят наслаждение, особенно женщинам. Я даже смирилась с тем, что на мне поставили штамп шопоголика.

**– Это правда?**

– Рассказываю, как это произошло. Звонят журналисты: «Мы делаем опрос среди артистов. Где вы собираетесь отдыхать?» Я толком не поняла, кто звонит и зачем, поскольку пересаживалась с одного самолета на другой, а потом на третий. «Пока не знаю, но обязательно в жаркой стране».– «А может, вы что-то приобрели?» – «У меня нет времени ходить по магазинам. Если я покупаю, то сразу много». В итоге выходит статья: «Ирина Медведева разводится и, дабы уйти от депрессии, уезжает в жаркую страну и скупает все, что видит».

**–Развенчаем миф?**

– Хорошо. Отвечаю всем: я люблю красивую одежду, мне нравится хорошо выглядеть, но не делаю из этого культа. Не выкладываю в Instagram свои фото и не советуюсь с публикой, что мне надеть. На походы по магазинам в Москве у меня нет времени. И потом, в Москве найти что-то свое крайне проблематично. Зато я познакомилась с русскими дизайнерами. Вещи сидят потрясающе, правда, качество ткани оставляет желать лучшего. Одеваться в брендовых магазинах опасно: всегда есть шанс, что в таком же наряде придет кто-то еще. Хочу похвастаться: у меня большое количество вечерних платьев.

**– С одеждой разобрались. Знаю, что ты собираешь ангелочков. Большая коллекция?**

– Есть у меня такая страсть. Раньше я собирала фарфоровые статуэтки женщин в длинных платьях. Главное для меня – выражение их лица, поза, некая история. А вот с ангелочками даже не помню, как все завертелось. Но все знают о моем увлечении и везут их отовсюду. Лена Терновая подарила ангелочка, который сделан в монастыре без единого гвоздя. На блошином рынке в Германии мой администратор приобрел однажды целый мешок елочных игрушек 20-х годов.

**– Вам с Андреем Носковым надо объединиться: он страстный коллекционер елочных игрушек.**

– А знаете, что в проект «Пола Негри» я попала исключительно благодаря ему? Однажды в кафе окликнула Андрея. Он обернулся и совершенно неожиданно говорит: «Ой, ты же поешь! У нас такой замечательный проект начинается».

**– Мюзикл – жанр своеобразный. Бывает, что на спектакле попадаешь в ноты?**

– Конечно. Поначалу Гоша Куценко пел так, как ему удобно. Но стал заниматься и достиг больших высот. Поет отлично! У меня другая проблема – узлы.

**– Что это?**

– Мозоли на связках. Ночью съемки, днем репетиции или гастроли... Голос работал без отдыха. А потом еще простыла. Делаешь посыл на тысячный зал и слезаешь с дыхания, поскольку больно говорить и глотать. Начинаешь работать на верхнем регистре, и связки напрягаются еще больше. Вот такие специфические моменты. Врачи сказали, что необходимо все это вырезать, но я не могу себе позволить замолчать на целый месяц. Так что по утрам я хриплю.

**– Это чревато?**

– Безусловно. Так можно потерять голос. Нужно заботиться о своем организме, давать ему отдых.

**– В свое время ты переехала в Москву. Это твой город?**

– Определенно.

**– Он ломает человека?**

– Любой город может сломать, но Москва особенно жестока. Периодически появляется соблазн кого-то подсидеть, через кого-то переступить, «убить» во имя цели.

**– А через тебя переступали?**

– Конечно! Это очень больно. Сложнее всего в начале карьеры и когда чего-то уже достиг. Популярность имеет свои плюсы, но лишает свободы: нельзя выйти ненакрашенной на улицу, отказать людям во внимании. Или еще: на пляже лежишь, и тебя щелк-щелк. А ты в это время закатала купальник, там складочка лишняя или еще что-нибудь. Но я не жалуюсь. В начале пути мы все к этому стремились. Иное дело, что для меня это не главное, я всегда хотела заниматься только профессией. И в Москву приехала не из-за кино. Мечтала найти свой дом – театр.

**– Неужели у тебя нет амбиций?**

– Ну что ты, я же Лев! Но во имя собственных амбиций не стану рвать своего партнера на части. Я с людьми дружу, а не борюсь за роли.

**– Помнишь обиды?**

– Помню как опыт. Если вам однажды качели в голову заедут, вы ведь будете осторожны? Вот мне дали так, что голову чуть не расшибли. Но меня это не сломало.

**– А депрессии бывают?**

– Я знаю, что это. Но когда есть работа, движение вперед, нет времени впадать в депрессию. Иное дело, что на работе возможны конфликтные ситуации, которые отнимают энергию, силы. Но это неизбежно.

**– Есть подруга, которой можно поплакаться?**

– Теперь есть. Раньше я не могла обсуждать с подругами, к примеру, откровенные темы. Просто не могла, и все! Но у меня появился человек, с которым я могу говорить обо всем.

**– Говорят, не бывает дружбы между актрисами…**

– Скажу так: друг познается не только в беде. В Москве он познается и в радости. Не каждый может искренне порадоваться за тебя. Вот посочувствовать, пожалеть – это пожалуйста! Но чужой успех, чужое счастье не прощаются.

**«ВокругТВ» (vokrugTV.ru)**

ФОТАФАКТ

## Беларускія матывы на Тыдні высокай моды ў Парыжы





А ўсё таму, што дызайнеры новай калекцыі Valentino натхняліся любоўю і творчасцю Марка Шагала. У выніку атрымаліся выразныя вобразы з ільнянымі сарафанамі і доўгімі сарочкамі, багата ўпрыгожанымі вышытымі ўручную арнаментам і кветкамі.



ФУТБОЛ

## Глеб близок к переходу в «Генчлербирлиги»




Турецкий клуб «Генчлербирлиги» рассчитывает подписать контракт с белорусским полузащитником Александром Глебом.

Сообщается, что полузащитник уже прибыл на переговоры с руководством клуба.

Напомним, ранее сообщалось о том, что белорус ранее расторг контракт с «Коньяспором».

## «Минск» подписал контракт с тренером по психофизической подготовке

Тренерский штаб «Минска» пополнился тренером по психофизической подготовке Дмитрием Колташевым.

Дмитрий Колташев был приглашен из Чехии, где он работал на протяжении последних 10 лет с футбольными командами этой страны. Перед приездом в Минск специалист работал с футболистами из клуба «Теплице», выступающим в чемпионате Чехии.

## Что будет с «Гомелем»?

Новый голкипер «Минска» Андрей Климович рассказал о причинах своего ухода из футбольного клуба «Гомель».

**– Вы расстались с «Гомелем» – и тут же заключили контракт с «Минском». Как все было?**

– «Минск» проявлял ко мне интерес еще несколько недель назад. Но «Гомель» расставаться со мной не собирался – если только за деньги. Да и у меня таких планов изначально тоже не было. А потом выяснилось, что «Гомель» не сможет платить прежнюю зарплату. Было сказано: если вы против – уходите. Непонятно только, почему раньше нельзя было это сказать.

**– Но другие опытные игроки покинули «Гомель» раньше.**

– Просто у них закончились контракты, а у меня он был дей-




ствующий – до конца сезона. Но вышло так, что пришлось его расторгнуть.

**– Вы теперь, выходит, вернулись домой?**

– Да, я родом из Минска.

**– Что будет с «Гомелем»?**

– Трудно сказать... Состав омолаживается. Ну а что делать? Иногда такое случается. А судьба «Гомеля» мне, конечно, небезразлична. Особенно памятны местные болельщики, красивый город и классный стадион.

ДВА ПОГЛЯДЫ



# Вышыванкі

*У чым прычыны моды на вышыванкі, якія ўпрыгожылі кашулі многіх дзяржчыноўнікаў і прадстаўнікоў апазіцыі? Пра гэта нам распавялі палітолаг і філосаф* ***Аляксей Дзермант****, які каардынуе праект "Цытадэль" і сцвярджае, што мода на вышыванкі – гэта ўсяго толькі адказ на ўкраінскія падзеі, і кіраўнік аддзела маркетынгу імпарцёра Volkswagen у Беларусі ІП «Атлант-М Фарцойгхандэль»* ***Аляксандр Дземідовіч****, які ездзіць на "вышываным" аўтамабілі.*

## *Аляксей ДЗЕРМАНТ:* «Каб быць беларусам, не абавязкова насіць «касцюм беларуса»



**– Ці можна адрадзіць самасвядомасць беларусаў з дапамогай напаўзабытай нацыянальнай сімволікі?**

– Толькі з дапамогай старажытных арнаментаў і вышыванак – дакладна не. Яны могуць быць элементам нацыянальнага самавыяўлення, але не адзіным яго зместам. Архаіка не заўсёды дарэчная, сучаснасць вымагае прыстасавання архаікі да новых форм, але пры гэтым варта памятаць, што архаіка не заменіць нам будучыні.

**– Пераход нацыянальнага ўзору з дзяржаўнага сцяга на кашулі беларускіх апазіцыянераў – сведчанне ўзнікнення нейкай адзінай мэты ў двух бакоў, якія фактычна знаходзяцца ў канфрантацыі?**

– Я так не мяркую. Калі звярнуцца да выказванняў шэрагу апазіцыянераў, якія намагаюцца зарабіць сабе на вышыванках сімвалічны і палітычны капітал, то іх мэты хутчэй пярэчаць тым, якія ставіць перад сабой дзяржава, больш за тое, некаторыя дзеячы ўвогуле сцвярджаюць, што вышыванка – гэта сімвал супраціву, у тым ліку і цяперашняй уладзе. Але гучыць гэта сапраўды кур'ёзна, бо доўгі час апазіцыя і яе культурныя менеджары намагаліся культываваць "шляхецкі" стыль, вобразнасць ВКЛ і Рэчы Паспалітай, а тут раптам звярнуліся да сялянскіх строяў, прычым гэтыя строі ў якасці элементу нацыянальнай адметнасці сталі выкарыстоўваць бальшавікі. У сімволіцы і візуальным шэрагу часоў БССР арнаментаў, народных строяў і іх стылізацый было вельмі шмат. Таму ў гэтым сэнсе апазіцыянеры прызналі сваю няздатнасць стварыць нейкі іншы нацыянальны канон і ўзялі тое, што раней адмаўлялі.

**– Адзначыўшы, што вышыванка стала папулярнай ў сувязі з украінскімі падзеямі, вы заявілі: мэта чарговай спробы барацьбы з рэжымам усходняга суседа не будзе дасягнута. Чаму?**

– Таму што дзяржава вельмі лёгка можа пераняць гэтыя рэчы і нейтралізаваць той палітычны пасыл, які ўкладваецца апазіцыйнымі коламі. Дзяржава ўжо пачала гэта рабіць, і яна мае для гэтага больш магчымасцяў і нават правоў як пераемніца БССР. А наконт адасаблення ад Расіі – у гэтым сэнсе вышыванка можа быць выкарыстана толькі досыць абмежавай групай прадстаўнікоў гарадской субкультуры, але не стане масавай з'явай, пашыранай ва ўсіх сферах беларускага грамадства.

**– Адкуль у вас упэўненасць наконт уплыву на нацыянальную самасвядомасць беларусаў менавіта ўкраінскіх падзей?**

– Па-першае, стылізацыі-прынты, якія імітуюць вышываны арнамент на майках, з'явіліся ва Украіне нашмат раней. Многія менеджары-вышываншчыкі арыентуюцца менавіта на Украіну ў сэнсе мэт і спосабаў нацыятварэння, таму гэта проста перайманне таго, што рабілі і робяць украінцы. Але не думаю, што на беларускую нацыянальную самасвядомасць гэта мае нейкі заўважны ўплыў. Уплыў абмежаваны ўсё той жа гарадской субкультурай, якая жыве сваім жыццём, вельмі далёкім ад жыцця ўсёй нацыі. Таксама заўважу: каб быць беларусам, не абавязкова насіць "касцюм беларуса".

**– Крытыкі вышыванначнай ідэі, сярод якіх апынуўся і пісьменнік Альгерд Бахарэвіч, кажуць пра яе "калгаснасць". Вы таксама мяркуеце, што хадзіць у тканай кашулі – сорамна і бессэнсоўна і настаў час стаць еўрапейцамі?**

– У падобных выказваннях прабіваецца нейкі ўласны комплекс непаўнавартасці перад уяўнай "вышэйшасцю" Еўропы, гэткая самазнішчальная недаеўрапейскасць. Калі мы лічым вышыванкі "калгаснасцю", таму і баварцы з аўстрыйцамі, нарвежцы з фінамі – народы, у якіх ёсць практыка апранацца ў народныя строі на традыцыйныя або нацыянальныя святы, таксама з'яўляюцца "калгаснікамі". Калі і беларусы трапляюць у іх кампанію, не бачу нічога заганнага.

**– Вы прапанавалі замяніць нацыянальны код на больш матэрыяльныя рэчы, напрыклад, парад ваеннай тэхнікі. С-300 на шасі прымусіць адчуць сябе беларусамі?**

– Я казаў, што ваенная тэхніка, прадукты прамысловай вытворчасці могуць мець не менш, а можа, і больш важнае значэнне для нацыянальнай суб'ектнасці, чым вышыванкі. Карэя стала сусветна вядомай, уплывовай не праз іх нацыянальныя строі, а праз карпарацыю Samsung. Нядаўна мне распавялі гісторыю пра тое, што ў некаторых арабскіх краінах людзі ведаюць Беларусь таксама праз брэнд – грузавік МАЗ-543, які выкарыстоўваўся для перавозак ракетнага комплексу «Скад». Разумееце цяпер, што не толькі праз вышыванку можна нацыянальна самасцвярджацца.

**– Як вы ставіцеся да вышыванак на танцпляцоўках начных клубаў, а таксама набівак з "рунамі" на целе мадэляў і падлеткаў?**

– Для мяне арнамент, народны строй – рэчы амаль сакральныя, таму мне не дужа падабаецца іх выкарыстанне ў вульгарных, прафанізаваных формах. Гэтыя рэчы – больш сямейныя, родавыя, і калі яны ператвараюцца ў перамолаты мас-культурай тавар, то асабіста для мяне яны губляюць свой сэнс, і я не бачу розніцы ў тым, што будуць насіць танцоўшчыцы – вышыванкі, кімано ці бікіні. Людзі, якія наносяць арнаменты на сваю скуру, часта проста не ведаюць іх сэнсу і значэння. Асабістая справа, вядома, але часам смешна бачыць на мажных хлопцах знакі з жаночых падолаў.

**– Калі вы іранізуеце наконт вышыванкі, то ці можаце прапанаваць іншыя сімвалы Беларусі?**

– Няма ніякай іроніі, наадварот, у мяне стаўленне да гэтага звышсур'ёзнае, таму я кажу хутчэй пра разуменне дарэчнасці, пра густ, пра меру. Арнамент і так з'яўляецца сімвалам Беларусі, але адной толькі вышыванкай нацыянальны код, сэнс нацыянальнай ідэі абмежавацца не можа. Для мяне гэты сэнс – у сваім вобразе будучыні, у тым, што можа несці вядомасць і славу нашай краіне ў глабальным кантэксце, у тым, што развівае нас і робіць канкурэнтаздольнымі ў параўнанні з іншымі народамі.

**– А ў вас, дарэчы, ёсць адзенне з вышыванкай? Ці ведаеце, што менавіта азначаюць "беларускія руны" на ёй?**

– У мяне ёсць строй, я ведаю, што азначаюць знакі арнаменту на ім. Надзяваю яго на традыцыйныя святы. Але беларусам я застаюся нават тады, калі апранаю звычайны касцюм.




## *Аляксандр ДЗЕМІДОВІЧ:* "Чырвона-зялёная безгустоўшчына выклікае шкадаванне"

**– Які сэнс укладвае ў стары нацыянальны ўзор уладальнік першага, і, магчыма, адзінага "вышыванага" аўтамабіля ў Беларусі?**

– Мой Volkswagen Golf – не адзіны і не першы. Калі я не памыляюся, у Гродне жыве хлопец, які абклеіў свой аўтамабіль яшчэ да агульнага захаплення вышыванкай. Для мяне гэта ў першую чаргу абярэг – менавіта такі сэнс нашы продкі ўкладвалі ў гэты арнамент.

**– Кажучы пра вышыванку, філосаф Аляксей Дзермант заявіў: суграмадзяне захапіліся ёю пасля падзей на Майдане. Топ-менеджар буйной кампаніі, упрыгожыўшы лазню загараднага дома даматканымі ручнікамі, перакананы: нацыянальны ўзор, беларуская мова і адчуванне сябе менавіта беларусамі былі з намі заўсёды. З кім згаджацца?**

– Беларусы сталі павальна захапляцца вышыванкай пасля Майдана. Прычын некалькі. Галоўная – своеасаблівая форма пратэсту супраць расійскага шавінізму. Беларусы культурна намякаюць: Беларусь – не Расія, а беларусы – нацыя са сваімі традыцыямі, якую варта паважаць.

**– Некаторы час апазіцыя выкарыстоўвала сімвалы ВКЛ і Рэчы Паспалітай, якія падкрэсліваюць шляхецкае паходжанне. Нечаканае з'яўленне на кашулях яе лідараў дэталяў сялянскага адзення кажа пра тое, што ўлады ўдалося пераканаць: нацыя адраджаецца з сялян, а не паноў?**

– На мой погляд, апазіцыя заходзіла не з таго боку. Пытанне іншае: ёсць нацыянальная ідэя ці няма? Ёсць слаўнае мінулае: Каліноўскі, Касцюшка, Скарына, Багдановіч, Сапегі, Радзівілы... Але сёння ад мінулага хто-ніхто спрабуе адхрысціцца, ствараючы ілюзію, што гісторыя Беларусі пачынаецца з Вялікай Айчыннай вайны. Шматлікія спробы апазіцыі аб'яднаць нацыю абярнуліся правалам, але на хвалі расійска-ўкраінскага канфлікту адкрылася другое дыханне цікавасці да сваіх вытокаў. Міжвольнае, некантралюемае, таму і атрымала такое распаўсюджванне.

**– Ці не стане набіўка-вышыванка першым крокам да адчування сябе беларусам?**

– Набіўка, майкі з вышыванкамі, торбачка з нацыянальным узорам, рэкорднае наведванне Мірскага і Нясвіжскага замкаў – знешнія праявы трэнду, які без унутранай трансфармацыі страціць актуальнасць. Сёння пытанне самасвядомасці хвалюе далёка не ўсіх. Ці захочуць беларусы пайсці далей у адчуванні сябе беларусамі, шмат у чым залежыць ад развіцця канфлікту ва Украіне і таго, ці зможа Расія выйсці з яго больш-менш прыстойна.

**– Камерцыялізацыя часткі беларускага сцяга – гэта нармальна?**

– У любой краіне на нацыянальнай атрыбутыцы робяць мільёны, усё залежыць ад ступені камерцыялізацыі і густу. Да нядаўніх часоў у дзяржавы гэта атрымлівалася дрэнна. Чырвона-зялёная безгустоўшчына, якая пазапаўняла дзяржаўныя ўнівермагі, выклікае шкадаванне. А прапанова нацыянальнага ўзору прыватнікам была цікавай і запатрабаванай.

**– Часам складаецца ўражанне, што жыхары Беларусі не разбіраюцца, які сэнс нясуць «беларускія руны» на іх вопратцы. Вы вось, да прыкладу, можаце сказаць, што азначае ўзор, нанесены на ваш аўтамабіль?**

– Ён узяты з кнігі па гісторыі беларускага арнаменту. Патэрн азначае дабрабыт. Ручнікі з такім малюнкам гаспадыні даставалі з шафы на свята заканчэння ўборкі ўраджаю.

**– Што адказаць пісьменніку Альгерду Бахарэвічу, які заявіў: вышыванкі патрэбны нашым людзям для дэманстрацыі нацыянальнай ідэі, за якой насамрэч нічога няма?**

– Гэта так. За паказухай ідзе message: «Я беларус і ганаруся гэтым». Пытанне напаўнення ўнутранага зместу пакуль застаецца справай кожнага.

**– А як з папрокам наконт «калгаснасці» новай моды? Згодны, што вы – пазёр з вёскі, у якога хапіла грошай на "вышываны" аўтамабіль?**

– Так могуць казаць толькі тыя, хто з-за маскі гіпертрафіраванай перавагі ненавідзіць свой народ. Я і не ўтойваю, што я з вёскі, з мястэчка Мір. Дзяды былі моцнымі гаспадарнікамі. Адзін прайшоў усю вайну, загінуў за некалькі дзён да яе заканчэння, другі закладваў лес з князем Святаполк-Мірскім, быў кавалерам войска Пілсудскага, ваяваў, тройчы трапляў у палон і тройчы збягаў. Яму было за што крыўдзіцца на дзяржаву – за тое, што адабралі зямлю, каня, якога, дарэчы, замарылі ў калгасе, за хату, знесеную напярэдадні зімы. Для пазёрства ў мяне няма падстаў. Ёсць разуменне, хто я і хто беларусы ў гэтым свеце.

**Алена АНКУДА.**

ШАХМАТЫ

## Из творчества читателей



Предлагаем вниманию любителей шахмат коллективную двухходовую задачу-миниатюру, которую составили мастер спорта СССР по шахматной композиции Николай Иванович Бельчиков и белорусский поэт и шахматист первого разряда Василий Алексеевич Жукович.

**Белые:** Крa5, Фg7, Сh5, Кe5, Кe6, п. c2 (6).

**Черные:** Крd5 (1).

**Мат в 2 хода.**

Свои ответы на задачу присылайте по адресу: **220034 Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты «Народная Воля», «Шахматы».**

## *Чемпионы – Кирилл Ступак и Ланита Стецко*

В Минске финишировали турниры высшей лиги чемпионатов Беларуси по шахматам 2015 года среди мужчин и женщин. В мужском турнире борьбу за чемпионский титул вели 12 спортсменов. Борьба была чрезвычайно напряженной, исход соперничества определился лишь после заключительного тура. В результате золотую медаль выиграл 24-летний минский гроссмейстер Кирилл Ступак, набравший 7,5 очка из 10 возможных. Такой же итог у занявшего второе место гроссмейстера Алексея Александрова, но он уступил сопернику по дополнительным показателям. Бронзовую награду выиграл рейтинг-фаворит гроссмейстер Сергей Жигалко – 7 очков, единственный из участников, проведший турнир без поражений. По 5,5 очка в активе гроссмейстеров Андрея Жигалко (Минск), Никиты Майорова (Витебск) и кандидата в мастера Павла Смолича (Минск), разделивших 4–6-е места. Особо следует отметить успех 24-летнего минчанина Смолича, выполнившего норму международного мастера. Успешно выступила и гроссмейстер Анастасия Зезюлькина, набравшая 4,5 очка и занявшая седьмое место.

В женском чемпионате нелегкая победа досталась рейтинг-фавориту, международному мастеру Ланите Стецко (Минск) – 7 очков из 9 возможных. Серьезную конкуренцию чемпионке оказала 12-летняя могилевчанка, бронзовый призер чемпионата мира среди девушек Ольга Баделько, нанесшая единственное в турнире поражение чемпионке. В итоге Баделько заняла второе место с 6,5 очками. Бронзовую медаль выиграла кандидат в мастера Екатерина Богдан (Минск) – 6 очков. Но пол-очка меньше у мастера спорта Татьяны Рево (Минск). В первую шестерку вошли также мастера спорта Мария Колядич – 5 очков и Мария Невеселая – 4 очка.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

### *Губка для цветочных горшков*

Если вы решили пересадить комнатные растения, то обязательно примените следующую маленькую, но эффективную хитрость. На днище горшка поместите обычную увлажненную губку. Далее в горшок насыпьте земли и можете приступить к посадке цветов. Такой «дренаж» позволит продлить время пребывания влаги в земле. Плюс к этому – будет исключена возможность заливания поддона, если вы случайно перестараетесь с поливом.

### *Убираем винные пятна*

На ковре появилось винное красное пятно? Не стоит паниковать! Не дожидаясь высыхания пятна, налейте на него в небольшом количестве белое вино, при помощи губки затрите это место. Затем смочите губку в холодной воде и замойте проблемное место. Далее на пятно посыпьте соль, подождите около десяти минут, пока соль не впитает влагу. Останется пропылесосить ковер.

### *Сахар – золоту*

Золотые вещи по истечении некоторого времени утрачивают блеск. Но всегда им можно вернуть прежний вид. Наберите в стакан воды, в нее добавьте две чайные ложки сахара, дайте отстояться раствору около двух часов. Возьмите золотую вещь и поместите ее сахарный раствор. Затем изделие необходимо вытащить и промыть теплой водой.

### *Карандаш для молнии*

Ваша железная молния не застегивается, в частности заело собачку? Нет проблем! Это дело поправимое! Нужно взять обычный карандаш и провести его грифелем по поверхности зубчиков молнии. Повторить данную процедуру пару раз!

### *Серебро не потемнеет*

Вас одолевает страх, который связан с возможным потемнением ваших серебряных украшений в процессе хранения? Тогда вы беспокоитесь зря, так как этот вопрос решаем. Хранить серебро необходимо в полиэтиленовом пакете, из которого заранее потребуется выпустить воздух и завязать его. Каждый пакетик нужно завернуть в обычную пищевую фольгу.

### *Лак для каблуков*

На каблучках туфель или сапожек появились царапины? Это можно исправить с помощью обычного лака для ногтей. Хорошенько очистите поверхность каблуков, отполируйте ее тряпочкой. Нанесите на поврежденные места лак в цвет каблука.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а.**
**Прыёмная:**
**тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286609, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

9 772071 964000 15009

**Падпісныя індэксы:** **63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 02.02.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26 030 экз. Заказ №510.**